© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 19 (637) ГОД XIII 12 МАЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ВЕЧАР УСПАМІНАЎ

24 красавіка гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў вечар успамінаў заслужаных дзеячаў рабочага руху аб святкаванні 1-га Мая за санацыйнай Польшчы. Хведар Савіцкі, Васіль Літвінчык, Піліп Кізевіч, Кастусь Зубрыцкі, Шыман Кузьмін і Кандрат Валасюк расказвалі прысутным аб сваіх перажываннях і змаганні з санацыйнай уладай, аб вывешванні чырвоных сцягоў, арганізаванні дэманстрацый, аб арыштах перад святам працоўных мас, аб дзейнасці КПЗБ і КПП і т.д. Вёў вечар успамінаў старшыня гарадскога аддзела Кастусь Масальскі.

### ПЕРШАМАЙСКАЯ АКАДЭМІЯ

Першамайская акадэмія ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ адбылася 27 красавіка. Вёў яе сакратар ГП Уладзімір Юзвюк, а даклад чытаў старшыня гарадскога аддзела БГКТ Кастусь Масальскі. Даволі багатая і цікавая была мастацкая частка. Выступаў харавы 25-асабовы калектыў васьмікласнай школы ў Гарадку пад кіраўніцтвам настаўніка Сцяпана Копы. У выкананні калектыву ўдзельнікі акадэміі пачулі рускія, беларускія, польскія і ўкраінскія песні, а таксама кароткія даволі цікавыя гумарыстычныя куплеты запазычаныя з «Нівы» з 8-май старонкі.

Удзельнікі курсу акардэаністаў (існуе ён пры гарадскім аддзеле пад кіраўніцтвам Ч. Дзюбінскага) паказвалі свае музычныя дасягненні, а дэкламатарская група (яе ўзначальвае Ядвіга Лапінская), якая ад нядаўна пачала працаваць, выступіла з вершамі на польскай, рускай і беларускай мовах.

Марыся Даноўская дэкламавала верш Уладзіслава Бранеўскага «Айчызна», Ніна Саковіч — верш Юльяна Тувіма «Покуй» і Яўгенія Цімашук верш Еўдакіі Лось «Толькі так» і верш В. Семянова «Радзіма».

### У СЕМЯНОЎЦЫ І ЧЫЖАХ

27-га красавіка адбыліся акадэміі прысвечаныя святу працоўных — 1-му Маю ў Семяноўцы і Чыжах. Былі яны арганізаваныя мясцовымі ГРН-амі, грамадскімі камітэтамі ПАРП і Беларускім таварыствам.

### НА ПАБУДОВУ БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ

Адной з асноўных задач Грамадскага камітэта пабудовы музея ёсць збіранне фінансавых сродкаў. У апошнім часе разаслана, паштэмпляваныя Ведамствам унутраных спраў Прэзідыум ВРН, спіскі добраахвотных уплат на пабудову рэгіянальнага беларускага музея.

Каардынатарамі гэтай акцыі з'яўляюцца аддзелы БГКТ у паветах. Вялікую актыўнасць у гэтым напрамку праявіў **Гайнаўскі аддзел БГКТ і яго інструктар Віктар Бура.** Разаслана ўжо тут (24 сакавіка) 53 спіскі. Добраахвотныя ўплаты на пабудову беларускага музея ўплацілі ўжо ў Гайнаўскім такія ўстановы, як: **пачатковая школа № 2 — 109 зл., беларускі ліцэй — 91,50 зл., аддзел асветы — 165 зл., Павятовая камэнда МО — 365 зл., пачатковая школа №1 — 105 зл., настаўнікі раёна Семяноўка — 164 зл.** Далейшыя ўплаты паступаюць на банкаўскі рахунак камітэта ў Гайнаўцы.

Вельмі заахвочваем усіх, каб пайшлі следам працаўнікоў гайнаўскіх установ. Твая залатоўка прычыніцца да захавання нашай матэрыяльнай культуры. Напамінаем, што грошы трэба ўплачваць на рахунак:

Społeczny Komitet Budowy Muzeum w Białowieży
Bank Spółdzielczy w Hajnówce
Konto Nr 6-10.

(А.К.)

## ДЗЕЯЧ КУЛЬТУРЫ — ХТО ТАКІ?

**Размова з кіраўніком Аддзела культуры Прэзідыум павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы Станіславам Кастэрай.**

Заплануе сабе журналіст святочную размову аб дзеячу культуры: хто такі дзеяч культуры, чым вызначаецца? А тут размоўца задыханы, змучаны, смутны, толькі-толькі вярнуўся. Кажу: аднак хачу з вамі пагаварыць з выпадку свята дзеяча культуры. А ён: што стараецца дастаць самаход «Ныску» хоць нейкую для культуры Гайнаўскага павета, каб ехаць, ехаць, выязджаць як найчасцей у вёску.

— Я галавою мур разаб'ю, але буду за гэты самаход біцца. Маем цяпер у нас добра арганізаваную культурна-асветную парадню, людзей розных спецыяльнасцей, харэографа, тэатральнага інструктара, музыканта, мастака. Чаго ім сядзець у горадзе? Трэба ехаць, але чым? Нібы аўтобусам таксама можна. Ды я гавару: чаго інструктару ехаць з раніцы на вёску, людзі ў полі. А для таго, каб толькі паглядзець, як полкі ў бібліятэцы стаяць, замала. Інструктар парадні павінен ехаць у вёску на вечар. Але зноў уночы пехатою вяртацца цяжкавата. А мы хочам раскруціць працу якраз на вёсцы. Я сам сын рабочага з Гайнаўкі, але сентымент асаблівы маю

## ВЕЧНА НЕСПАКОЙНЫЯ

для гаспадара, яго цяжкай працы ў полі, яго патрэбы культуры і адпачынку. Каб мы мелі «Ныску»...!

— Пралятаюць мне праз думку прозвішчы людзей — кіраўнікоў вашага павета. Знаю іх крыху і іх адданасць, веру, што «Ныска» знойдзецца... Дык хто такі дзеяч культуры?

— ...гэта чалавек вечна неспакойны. Павінен мець энергію, але найперш умеласць навязваць кантакт з людзьмі. Яму няма гадзін працы, няма нядзелі, свята, спакойнага вечара і спакойнага засынання. Культуры патрэбныя людзі перш за ўсё з прызваннем і патрэбай дзеяння.

— Маладыя, старэйшыя?

— Не пра ўзрост тут трэба гаварыць, **хоць...** у нас больш маладых, чым старых. Але... але... у чым маладосць? У гадах? Абсалютна не! Я ведаю дырэктара аднаго хора — 60 год яму, а каб вы пабачылі яго ў працы! Найбольш небяспечнае ў культурнай дзейнасці, што маладыя часта хутка «старэюць». Бо маладосць, якая выражаецца ў дзеянні— гэта найважнейшае! Калі чую, што кажуць пра чалавека «неспакойны», то для культуры ён прыдатны, і я яму веру. Ён мяне не спытае адразу, колькі за сваю працу дастане. Я наваг яму вымушаны прыпамінаць аб яго заплаце, такому, напрыклад, Кабацу з Гайнаўкі. Такі ж Януш Фалінскі з Белавежы. Гэта людзі поўнасцю адданы...

— Прашу больш яшчэ людзей такіх. Яны тут на гайнаўскай зямлі ёсць. Назавем іх з выпадку дня дзеяча культуры.

— Такія абодва браты Харкевічы з Ляшукоў, Генрыка Кульчакевіч з Чыжоў, Аляксей Грыгарук з Дубін — па яго новай ініцыятыве там цяпер чынам будуюць кавярню, такі ж старшыня ГРН з Дубіч Царкоўных Мікалай Чыквін...

— Якая, па-вашаму, роля адзінкі ў культурнай дзейнасці і асабліва на вёсцы?



— Сам чалавек нічога не зробіць. Але ініцыятыва, штуршок, энтузіязм ідзе ад адзінкі. Мы ад нейкага часу стараемся рушыць з месца культурны застой у Нарве. Два разы збіраліся там, раілі. А ў чым па-сутнасці справа? У памяшканні для клуба трэба б паставіць дзве печкі і аклеіць пакой. Старшыня ГРН, калі б праявіў культурны неспакой, уміг усё зрабілася б. Але старшыня Прэзідыум ГРН у Нарве спакойны. І аказваецца, што горш, няма на яго моцных, а ў Нарве няма клуба.

— Якая форма культурнай дзейнасці мае перспектывы?

— Улады ахвотна бачаць клуб, як добры мадэль культурнай пляцоўкі на вёсцы.

— А вы?

— Я падтрымліваю, але не трэба генеральна адкідаць святліцу. Чым клуб розніцца ад святліцы? Толькі тым, што мае кіёск. Згода. Можна ў кіёску купляць каву ці аранжаду. Але не рабіць з яго магазіну на ўсё. А часта толькі адно гэтае і бывае ў клубе, без ніякай культурнай дзейнасці.

— А чалавека культурнага як вы бачыце?

— Усё вакол фармуе новы мадэль чалавека культурнага: школа, арганізацыя, пастарунак МО, працаўнік рады нарадовай. Чалавек культурны, зразумела, гэта чалавек, які думае, чытае цікавіцца, многа ведае. Самая сучасная мэбля нікога не зробіць культурным. Цяжка толькі гаварыць пра культуру ў клубе, дзе парваны газеты і брудна...

Размаўляла
**Вера Леўчук**

## У Нацыянальнай Камісіі ВК ПАРП

**25 красавіка г.г. у Гайнаўцы адбылося выяздное пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Прысвечана яно было пытанню чытальніцтва грамадска-палітычнай літаратуры ў асяроддзях нацыянальных меншасцей. Інфармацыю на гэту тэму зрабіў дырэктар ваяводскай бібліятэкі Уладзіслаў Маеўскі. Пасля адбылася дыскусія.**

**У пасяджэнні, апрача членаў Камісіі, узялі ўдзел загадчыкі павятовых бібліятэк з паветаў, у якіх пражываюць нацыянальныя меншасці, а таксама прадстаўнікі ваяводскай бібліятэкі, ваяводскага прадпрыемства «Дом кнігі» і Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы.**

**Пытанню чытальніцтва грамадска-палітычнай літаратуры ў беларускім асяроддзі прысвецім спецыяльную публікацыю.** **(рл)**

Сустрэчы з землякамі

## Дацэнт ЛУКАШУК

Мікалай Лукашук з Гайнаўкі не спадзяваўся, што калі-небудзь з прозвішчам яго сына Аляксандра будзе неразрыўна звязана чужое і таемнае слова — дацэнт. Яно выводзіцца з лацінскай мовы і абазначае чалавека вучонага, самастойнага навуковага работніка, які мае права вучыць студэнтаў у вышэйшых навучальных установах.

Здольнасці Аляксандр пераняў ад бацькі, а бацька добра разумеў, што для такіх беднякоў, як яны, у якіх толькі адно багацце: рукі і галава — будучыню можа абяспечыць выключна навука. Адно разумець, а другое — ажыццявіць. У іх жа была яшчэ дачка. На двое, як не лічы, грошай на школу не хопіць. Дык рашылі, што вучыцца будзе толькі сын. Клопаты пачаліся, калі Аляксандр захацеў ісці ў гімназію. Была яна ў Бельску. Адна адзіная на вялікай прасторы паўднёва-ўсходняй Беласточчыны. За навуку, за самую магчымасць навукі трэба было плаціць, добра плаціць, у год больш-менш столькі, колькі каштавала адна добрая карова. Дзень у дзень Аляксандр на ўрокі ездзіў цягніком.

У хаце Лукашукоў ад дабра не пералівалася. Пастаянна жылі пад страхам, што бацька патраціць заработак.

— Хацелася б, — сцвярджае дацэнт доктар Аляксандр Лукашук, — каб бацькі і вучні цяперашніх шматлікіх агульнаадукацыйных школ, тэхнікумаў і іншых прафесіянальных школ у Гайнаўцы, Бельску, Сямяцічах, Белавежы, у Саколцы, Міхалове і ў іншых мясцовасцях Беласточчыны ведалі пра ўсё гэта, каб разумелі, як аграмадны шлях прайшлі мы пры народнай уладзе ад тадышніх да сённяшніх дзён. Гэта ж жывая, яшчэ дакранальная, а не кніжная праўда. І таму баліць мне сэрца, калі чую, што знаходзяцца сярод нашай моладзі людзі, якія мала цэняць усё гэта, што дала ім наша Народная Айчына.

Гэтыя словы пачуў я ідучы з дацэнтам Лукашуком вуліцамі Вроцлава. Тут



у Вышэйшай эканамічнай школе працуе наш зямляк. Пястоўскі горад рыхтаваўся якраз да сустрэчы сваёй 23-цяй гадавіны вызвалення і адначасова вяртання да сям'і сваёй старой Радзімы. Гэтыя 23 пасляваенныя гады далі Вроцлаву 8 вышэйшых навучальных установ, а ў тым ліку ўніверсітэт і палітэхнічны інстытут; самыя буйныя прамысловыя камбінаты, як фабрыка чыгуначнага транспарту «Пафаваг» і прасторныя, светлыя, са шматпавярховымі гмахамі новыя жылыя кварталы. Незвычайны размах будаўніцтва перш за ўсё кідаецца ў вочы прыезджаму.

Набліжаемся да школы. Штораз больш маладых і старэйшых людзей ветліва вітаюць дацэнта А. Лукашука. Прыемна сцвердзіць, што тут добра ведаюць нашага земляка, што адносяцца да яго з пашанай і любоўю. Дацэнт Лукашук вядзе заняткі са студэнтамі. Але не толькі. Пад яго кіраўніцтвам здабыло тытул доктара навук ужо сем чалавек, а магістэрскіх прац ён сам не зможа нават палічыць. Зараз дац. др А. Лукашук кіруе працай навуковай

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

## ВіТАЕМ „КАНТРАСТЫ"




На вуліцы Весялоўскага ў «Доме прэсы» паявілася новая рэдакцыя: «Кантрасты».

Палічылі мы найлепш звярнуцца да галоўнага рэдактара новага часопіса **Крыстыны Маршалак-Млыньчык.**

— Гісторыя «Кантрастаў» пачалася ў 1965 годзе, калі па ініцыятыве аддзела прапаганды Ваяводскага камітэта партыі і групы журналістаў «Кантрасты» выдаваліся як аднаднёўка. Было тых аднаднёвак шэсць. Трактавалі мы іх як пробу сіл, якая выйшла добра. Ад студзеня 1968 года «Кантрасты» прыняла РСВ «Праса» і маем беластоцкі квартальнік. У гэтым годзе выдадзім 4 нумары. Адзін ужо выйшаў у красавіку, другі будзе ў маі, трэці на пачатку ліпеня і чацвёрты ў кастрычніку. «Кантрасты» ў будучым будуць выходзіць у пачатку кожнага квартала.

— Чаму «Кантрасты»?

— Мы хочам паказваць кантрасты, якія ў нас на Беласточчыне найбольш відавочныя. I ў нацыянальнай структуры, і ў культуры, звычаях, абычаях. Адбываюцца цяпер гвалтоўныя змены. Хочам іх, гэтыя змены, таксама запісаць, як дакумент.

— Характар часопіса?

— Грамадска-культурны. Тут аднак трэба сказаць, што паколькі тэта адзіны такі часопіс у нас, таму ён павінен быць часопісам усебаковым, які б задавальняў чытача рознага ўзросту і рознага інтэлектуальнага ўзроўню. Праблематыка павінна быць таксама і гаспадарчая, і турыстычная, і нешта для адпачынку.

— Структура часопіса?

— Выдзяляем тры асноўныя часткі:

1) артыкулы, якія паказваюць Беласточчыну на фоне краіны;

2) літаратурная творчасць мясцовая і людзей, якія пішуць аб Беласточчыне;

3) рэгіянальная, тут сталыя рубрыкі, тут розныя дробныя весткі.

— Калі б хацелі мы шукаць падобных часопісаў у краіне, то былі б?

— Так як «Вармія і Мазуры» ў Ольштынскім, ці «Літэры» ў Гданьскім. Кожны з гэтых часопісаў спецыялізуецца ў сваім раёне. Мы ў сябе маем усходняе пагранічча і хочам яго паказваць, хочам, каб яно надавала спецыфіку часопісу.

Плануем навязаць супрацоўніцтва з Мінскам, Гроднам, Коўнам і там мець сваіх аўтараў. Я б вельмі прасіла, каб вы гэты момант падкрэслілі.

— Першыя водгукі чытачоў?

— Цешацца, што ёсць урэшце і на Беласточчыне рэгіянальны часопіс. Дамагаюцца праблематыкі шырокай, востра пастаўленай, нашай — беластоцкай.

— Жадаем многа поспехаў.

вл.

## „ВЫБУХ"

Драма Міколы Алтухова і Міколы Гуралёва на Беласточчыне драмгурткамі не ставілася. Падрыхтавалі яе ўпершыню самадзейнікі з Ляшукоў і выступалі з ёю на павятовым аглядзе мастацкіх калектываў з беларускім рэпертуарам у Гайнаўцы. Змест п'есы паказвае барацьбу партызан Беларусі з нямецкімі захопнікамі. З увагі на яе выхаваўчыя вартасці і таму што ўвесь час глядач сядзіць напружаны і перажывае разам з героямі падзямелля, якія з'яўляюцца ўрэшце пераможцамі. варта, каб за гэтую пастаноўку ўзяліся і іншыя драмгурткі. Праўда, што пастаноўка не лёгкая да рэалізацыі, таму што выступае там шмат асоб і ў ёй многа трагізму, які не лёгка пераказваць выканаўцам. Аднак тым драмгурткам, якія ўжо працуюць многа год і якія маюць добрага рэжысёра, варта яе падрыхтаваць. Драма сапраўды цікавая і вартасная. На здымку сцэна з Ляшукоўскай пастаноўкі «Выбуху».

Тэкст і фота М. Хмялеўскі



## У ДОМЕ КУЛЬТУРЫ К. КАЛІНОЎСКАГА

Жыхары Гарадка хацелі мець свой дом культуры. Хацелі і дабіліся гэтага. Пачалі яго будову грамадскім чынам і грамадскімі грашыма. У той час можна было пачуць такія выказванні: беспатрэбна ўкладаюцца там вялікія сумы, таму што ёсць дом культуры ў Міхалове, якое адлеглае ад Гарадка 8 км, і што ў гэтым раёне дастаткова аднаго Дома культуры, тым больш, што і ў Міхалове нічога цікавага не дзеецца. Але насельніцтва Гарадка на чале з Іванам Трафімчуком стаяла пры сваім, пакладала ўсе сілы, каб будову гэту закончыць. I закончылі.

Праўда, пачаткова не выкарыстоўвалася адпаведна гэтае выгоднае памяшканне, пачаткова і культурна-асветная праца страшэнна кульгала. Але калі стаў кіраўніком дома культуры Мікалай Матэйчук, усё змянілася. Дом культуры стаўся сапраўдным цэнтрам культурнага жыцця. У ім адбываецца многа цікавых мерапрыемстваў. Для прыкладу ўспомнім мінулы год. Тут выступіла 12 прафесіянальных калектываў і 15 аматарскіх. Паспяхова працаваў і далей працуе Паўшэхны ўніверсітэт ТВП (Таварыства паўшэхных ведаў). Тут адбываюцца заняткі вечаровай школы актыву ЗМС (Саюз сацыялістычнай моладзі). Тут пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы адбываюцца рэпетыцыі хора Гарадоцкага аддзела БГКТ. Тут на працягу года арганізуецца вялікую колькасць акадэмій, а таксама іншых мерапрыемстваў. Пры доме культуры існуе дэкламатарскі гурток, у якім актыўны ўдзел прымае і сам кіраўнік. Сёлета ў Чорнай Беластоцкай адбыўся павятовы агляд агульнапольскага дэкламатарскага конкурсу. Удзельнікаў было каля 40 асоб. Гарадоцкія дэкламатары даволі добра выпалі на гэтым аглядзе. Нэля Варакса і Данута Зіневіч атрымалі пахвалу. З катэгорыі школьнай моладзі атрымаў пахвалу Юрка Яроцкі. А кіраўнік — Мікалай Матэйчук (выступаючы ў класе паэзіі з фрагментам з паэмы Уладзіміра Маякоўскага «Ленін» і ў класе прозы з твора Яраслава Івашкевіча «Слава і хвала»), здабыў другое месца. Ён прымаў удзел і ў ваяводскім аглядзе.

Мікалай Матэйчук з'яўляецца таксама сакратаром Гарадоцкага аддзела БГКТ і па меры магчымасцей уносіць свой уклад у развіццё беларускай культурна-асветнай арганізацыі.

Тэкст і фота М. Хмялеўскі



Мікалай Матэйчук.

## ЯК РЭДУТЫ СТАЛІСЯ БАГАТЫМІ

Быў час, калі Рэдуты былі зусім беднымі. Вядома, зямля тут ненайлепшая, прытым гаспадаркі невялікія, усяго па 3—4 гектары. Жылі тады рэдутаўскія гаспадары наогул бедна, да часу, пакуль не даведаліся, што можна жыць багата. Сталася гэта недзе ў 1962 годзе. Прыехаў у Рэдуты нехта з Беластока ды запрапанаваў некалькім сялянам плясці саламяныя каробкі. Работа пачаткова выдалася проста смешнай. Праўда, мясцовыя сяляне, а асабліва старэйшыя, даўней плялі каробкі зімою, ніхто аднак не лічыў ніколі, што з гэтага можна мець які-небудзь даход. Саламяныя каробкі плялося для ўласных патрэб, перахоўвалася ў іх добра збожжа ды ўсялякае іншае гаспадарскае багацце.

Часы аднак змяняюцца і каробкамі, у якіх сяляне гадоў дваццаць таму назад перахоўвалі зерне ды мякіну, цяпер народ з горада ўпрыгожвае свае кватэры. Карысць з гэтага перш за ўсё сялянам. Саюз народнай вытворчасці, які скупляе саламяныя каробкі, плаціць сялянам па 100 злотых за штуку. Адна асоба, працуючы салідна, можа сплясці ў дзень дзве каробкі. Такіх заработкаў не знойдзеце ні ў адным прадпрыемстве, да таго сядзіць чалавек у сваёй хаце, можа прытым каня напаіць, падаваць каровам.

Нічога тады дзіўнага, што сяляне з Рэдутаў не доўга дзіваваліся першым рамеснікам. Хутка за пляценне саламянак прынялася ўся вёска. Вёска разбагацела. Каб пераканацца ў гэтым, хопіць прайсціся праз Рэдуты. Старыя, струхлелыя, крытыя саламянаю страхою хаты стаяць на тых самых панадворках, што стройныя сучасныя мураваныя дамы. У невялікай вёсцы Рэдуты налічыў я 6 такіх мураванак. Многія гаспадары ў гэтым годзе пачалі будаваць сабе новыя дамы, яшчэ больш — будову новых дамоў запланавала ў недалёкай будучыні.

Амаль у кожнага гаспадара ў Рэдутах ёсць матацыкл. Пяцёх гаспадароў мае ў хаце тэлевізары. Хаця гаспадаркі тут, як мы ўжо сказалі, невялікія, гаспадары, каб аблегчыць сабе працу, забяспечыліся ў важнейшыя сельскагаспадарчыя машыны. Ды не толькі праца ў полі ў Рэдутах механізаваная. Механізуецца па меры магчымасці нават прадукцыя каробак. Кожны з вытворцаў мае ўласныя механічныя прыборы да падрыхтоўкі ракіты, якою сплятаецца салому. Адзін з гаспадароў змеханізаваў нават хатнюю працу сваёй жонкі — купіў пыласос. Некаторыя з мясцовых гаспадароў збіраюцца купаваць самаходы, у іншых ашчаднасці на кніжках ПКО сягаюць сумы 100 тысяч злотых. Усе ў Рэдутах купляюць дарагую, сучасную мэблю.

Як мы ўжо сказалі, у Рэдутах ёсць 5 тэлевізараў. Усе знаходзяцца ў хатах гаспадароў. Няма тым часам тэлевізара ў святліцы. Бо ўласціва няма тут і святліцы. Стаялі ў Рэдутах бескарысна хлявы былой спулдзельні прадукцыйнай. Пры дапамозе Саюза народных вытворцаў зроблена ў хлявах нешта ў родзе святліцы. Абіта сцены плітамі, устаўлена крэслы ды столікі. Няма аднак печы. Паставілі ў свой час у гэтую «нібы — святліцу» тэлевізар — уласнасць мясцовага сельскагаспадарчага гуртка. Прышлі маразы — тэлевізар змёрзся. Вечарам прышлі сяляне глядзець тэлевізар. Уключылі яго, каб разагрэўся. Разагрэўся, але да тае ступені, што аж дым пайшоў. Згарэлі ўнутраныя правады. Ад таго часу ў святліцы няма тэлевізара. А шкада. Здаецца, што багатыя рэдутаўскія сяляне маглі б пабудаваць у сваёй святліцы печку.

Але што тут гаварыць аб святліцы. Значна горшы клопат з мясцовай школаю. Не мае яна зусім уласнага будынка. Дзеці вучацца ў 4 прыватных гаспадарскіх хатах, раскінутых у розных пунктах вёскі. Павятовыя ўлады пакуль што адказваюцца будаваць у Рэдутах школу. Але ці сапраўды нічога не магла б тут зрабіць грамадская ініцыятыва вёскі? Рэдуты — вёска багатая ў грошы, але не багатая яна на культурныя ды асветныя багацці, і як здаецца, не багатая яна ў грамадскую ініцыятыву.

Ул. Паўлючук

## ПЕСНЯ ЖЫЦЬ ПАМАГАЕ

Уявіце сабе жыццё без песні. Як было б сумна, каб людзі не спявалі. Каб на вечарынках, у гасцях, на хрысцінах, на вяселлі, у хаце, у школе, у войску і г.д., каб не было песні.

«Песня строіць і жыць памагае», — гаворыцца ў адной з савецкіх песень. Спявае кожны чалавек. Адзін прыгожа, другі непрыгожа, трэці толькі сабе.

Слава ўсім спевакам, якія сваім галасам упрыгожваюць жыццё. Маю на думцы і не прафесіяналаў — спевакоў, тых, якія знаходзяцца ўсюды ў гушчы мас, аб якіх ведае толькі данае асяроддзе, даная вёска.

Калісьці я да тато высока цаніў людзей з добрымі галасамі, да таго хацелася мне ўмець захапляюча спяваць, што за гэта аддаў бы я шмат год свайго жыцця.

У вёсцы Грэбяні на Дуброўшчыне жыве зараз са сваёю маці Іван Леўка. Вось ён таксама з'яўляецца з тых людзей, якія любяць спяваць і якія прыгожа спяваюць.

— Бывала, збярэмся мы вечарам каля Радзівона, — успамінае ён, — і як пачнем спяваць рускія песні, тады збяруцца людзі, нашыя аднавяскоўцы, ды слухаюць. I так спяваем да поўначы і нікому не хочацца ісці дахаты. А часам пастроімся ў некалькі радоў і з песняй ідзем па вуліцы ў адзін ды ў другі канец вёскі.

У Грэбянях прыгожыя маюць галасы многа мужчын і жанчын. Вось, напрыклад, Толя Каралюс, Янка Сівіцкі, Марыся Гаўрылюк, Надзя Гець, Надзя Болкан і іншыя. Мог бы быць добры харавы калектыў. Але аб гэтым ніхто не думае. Толькі ў гасцях даюць яны волю свайму таленту. Некаторыя галасістыя людзі выехалі з вёскі, жывуць у гарадах. Але калі, напрыклад, прыедзе Коля Самойлік з Варшавы, тады Іван Леўка ідзе да яго, каб паспяваць. I тады зноў збіраюцца свае вядомыя слухачы — аднавяскоўцы і песня ўсіх захапляе, напаўняе іх сэрцы.

Івана Леўка вельмі часта запрашаюць на сямейныя ўрачыстасці, бо ведаюць усе, што ён любіць спяваць, што сваім чароўным голасам ён упрыгожыць сямейнае свята, што разам з ім будуць спяваць усе. А што варта вечарына без песні?

Іван Леўка працуе ўжо 7 год на пасадзе старшыні ГРН у Ружаным Стоку. Раней быў сакратаром КГ ПАРП і працаўніком ГРН. Ён ужо 11 год радным. Яшчэ раней узначальваў ЗМВ у Сакольскім павеце, а пасля ў Ломжы. Потым вымушаны быў вярнуцца дамоў і працаваць бліжэй дому, таму што ўжо старэнькая ў яго мама і ёй патрэбная сыноўская апека.

М. Хмялеўскі

© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025




**Мой сад**

Стаіць мой сад пад белым цветам:
Нарцыс — стыдлівых поўны крас,
Звісае бэз ў акно букетам,
Цюльпанаў куст расцвіў зараз.

Цвіце ляўкой, ў пуках рабіна;
Вішнёва дрэва ў малацэ;
А там парэчка, там маліна,
А там мой граб малы расце.

Люблю мой сад, як расцвітае,
Як салавей свой трэль вядзе,
Як цвет галінку прыгібае,
Як пчолка мёд адтуль нясе.

Люблю мой сад ў маёвым ранку,
Як тоне ён у расістай мгле,
Як ліпа шэпчацца пры ганку,
І як зязюлька «ку-ку» шле.

Люблю мой сад пад белым цветам,
Люблю, зялёным як стаіць;
Люблю, як грушы спеюць летам,
І як работай ён кіпіць.

Люблю мой сад у позну восень, —
Як плод звісае да зямлі,
Як голкі сыплюцца ад сосен,
Як залацяцца сліў лісткі.

Люблю мой сад у крэпку зіму, —
Як у крышталах ўвесь дрыжыць,
Як дзяцел, сеўшы на галіну,
Зімову песню загудзіць.

**Алаіза Пашкевіч (Цётка)**

1. Знайдзіце ў вершы тыя месцы, дзе аўтар выказвае пачуццё радасці і прыгажосць свайго саду.

2. Якія поры года апісвае паэтэса ў вершы?

**Біяграфічная даведка**

Цётка (1876—1916) — Сапраўднае яе прозвішча Алаіза Пашкевіч. Выдатная беларуская паэтэса, аўтар зборнікаў вершаў: «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская». Асноўным зместам творчасці Цёткі з'яўляецца: праца, доля і жыццё народа, яго непрымірымая барацьба з прыгнятальнікамі, імкненне да свабоды і шчасця. Паэтэса таксама выдала кнігу «Першае чытанне для дзетак беларусаў».

**Можна вучыцца**

# СЁСТРЫ ПАГАТОЎЯ ПЦК



Польскі Чырвоны Крыж арганізуе чатырохмесячныя курсы. Заняткі адбываюцца вечарамі, каб удзельнікам не перашкаджаць у штодзённай працы. Курсы вучаць так званых **сёстраў пагатоўя ПЦК.**

Што сабой такая сястра прадстаўляе? Яе заданні — усебаковая апека над хворым у хаце: папратаць, зварыць, перавязаць, зрабіць укол і г.д. Сястра такая хвораму, старому, адзінокаму часта чалавеку — гэта скарб, і як дагэтуль людзі хваляць сёстраў пагатоўя ПЦК.

За сваю працу за адну гадзіну яны атрымліваюць 5 зл. ад хворага, а калі той не мае чым заплаціць, плаціць ім Чырвоны Крыж.

Такая форма апекі шырэй прынялася ўжо ў горадзе, амаль зусім не існуе на вёсцы. Чаму? Па-першае, лягчэй сарганізаваць курс у горадзе, бо тут і ахвотных больш і хворыя больш ахвотна просяць сёстраў да сябе. Стары чалавек на вёсцы звычайна з ласкі сваякоў дажывае век. Але час і пра вясковых старых людзей задбаць.

Размаўляла я нядаўна аб такіх курсах і такіх сёстрах з сакратаром Ваяводскага аддзела ПЦК у Беластоку **Аннай Сулаўка.** Дайшлі мы да вываду, што сястра пагатоўя ПЦК — гэта свайго роду прафесія, якая дае, праўда невялікі, але ўсё ж заробак. А колькі ж дзяўчат на вёсцы, якія маглі б курс закончыць, здабыць каштоўныя веды і ўмеласці сабе, імі служыць іншым і зарабіць некалькі злотых. Тым больш, што абмежаванняў у тых курсах няма. Вось такі курс ідзе ў Бельску, на пачатку не меў камплекту (шкада, што дзяўчаты з-пад бельскіх вёсак не запісаліся на яго), такі курс арганізавана ў апошні час у Саколцы і Гайнаўцы. Курс такі арганізаваць можна ўсюды, дзе знойдуцца ахвотныя. Ахвоту сваю можна і трэба прадстаўляць павятовым праўленням ПЦК. Заахвочваем дзяўчат да гэтых курсаў і паведамляем, што трэба мець толькі 18 год і пачатковую школу.

(вл)

Селянін, які асягнуў век пенсіянера або з'яўляецца інвалідам, можа здаць дзяржаве гаспадарку абшарам меншую чымсьці 5 гектараў угоддзяў, аднак не менш 2,5 га. Пры тэтым атрымоўвае 500 зл. пры абшары пералічаных угоддзяў ад 2,5—3 га, 600 зл. пры абшары ад 3—4 га і 700 зл. пры абшары 4—5 га.

Таму, хто пасля 3 лютага 1968 года прадаў частку гаспадаркі, якая мела звыш 10 гектараў, пенсіі адпаведна абніжаецца ад 100—500 зл. Справа ў тым, што як была аб гэтым мова папярэднім разам, найбольшая пенсія — 1200 зл. выплочваецца сялянам, якія здаюць дзяржаве звыш 10 гектараў, прычым абыякава ці гаспадарка мае прыкладам 11 га ці 20 га. Калі б той, хто мае 20 га, прадаў 9 га, а аддаў дзяржаве

# Пенсіі для сялян

У № 8 урадавага зборніка законаў апублікавана апавешчана законам ад 24.I.1968 г., аб якой мы ўжо пісалі, пастанова Рады Міністраў ад 1.III.1968 г. у справе пенсіі і іншых грашовых павіннасцей на падставе перакaзання дзяржаве зямельных угоддзяў.

Селянін, які аддаў гаспадарку дзяржаве разам з забудаваннямі, атрымоўвае дадаткова да прызнанай яму пенсіі па 100 зл. у месяц пры вартасці будынкаў ад 30—100 тысяч зл., а 200 зл. пры вартасці будынкаў звыш 100 тыс. зл. Селянін можа затрымаць сабе будынкі, а таксама прадаць.

II га, то атрымаў бы пенсію не 1200 зл., а ўсяго 700 зл. г. зн. абніжаную на 500 зл.

Той, хто аддаў гаспадарку дзяржаве пасля, калі выслужыў дзяржаўную пенсію, атрымоўвае апрача дзяржаўнай пенсіі 1/4 частку пенсіі, якая яму належыцца за гаспадарку, а калі працаваў у ПГР — 1/3 частку.

Пенсіі для сялян выплочваюць Заклады убэспечэнь сполэчных на аснове пастаноў прэзідыума павятовай рады нарадовай. Пагэтаму той, хто хоча аддаць гаспадарку і атрымаць пенсію, павінен злажыць прашэнне ў сваёй павятовай радзе нарадовай.

# Прачытай, падумай, выбяры!

**АРТЫСТЫЧНЫЯ ШКОЛЫ**

Вялікая колькасць моладзі, якая закончыла пачатковыя школы, пытаецца ў пісьмах у рэдакцыю аб артыстычныя школы. Сёння падаем адрасы гэтых школ і інфармацыю аб іх.

**Музычныя школы**. Тыя, хто закончыў пачатковую школу, могуць быць прыняты ў музычную школу I ступені ў аддзел моладзі і дарослых, дзе навука працягваецца 5 год. Прыймаецца кандыдатаў ад 11 да 30 год. Музычныя школы II ступені запаўняюць сярэднюю музычную адукацыю, а навука тут працягваецца таксама 5 год.

**Мастацкія ліцэі** — гэта поўныя сярэднія школы. Навука працягваецца 5 год. Прыймаецца сюды кандыдатаў, якія закончылі пачатковую школу і маюць мастацкія здольнасці.

**Балетныя школы.** Прыймаецца сюды кандыдатаў ва ўзросце 10—11 год, якія закончылі III клас, пачатковай школы і зложаць конкурсны ўступны экзамен, які заключаецца ў баданні слыху, пачуцця рытму і музыкальнасці. Навука працягваецца 9 год. Пасля заканчэння школы выходзяць танцоры-прафесіяналы. А вось адрасы.

**Białystok,** ul. H. Sienkiewicza 14, **Państwowa Szkoła Muzyczna I stopnia;** ul. J. Kilińskiego 7, **Państwowa Szkoła Muzyczna II stopnia** (muzyk-instrumentalista, muzyk — śpiewak, nauczyciel przedmiotów muzycznych).

**Ełk,** ul. A. Czerwonej 2, **Państwowa Szkoła Muzyczna I stopnia.**

**Łomża,** ul. Giełczyńska 7, **Państwowa Szkoła Muzyczna I stopnia.**

**Supraśl k/Białegostoku,** ul. St. Konarskiego 4, **Państwowe Liceum Sztuk Plastycznych** — internat (technik sztuk plastycznych w zakresie tkactwa).

**Gdańsk-Wrzeszcz,** ul. F. Dzierżyńskiego 3, **Państwowa Szkoła Baletowa** — internat (tancerz).

**Bytom,** ul. Jagiellońska 23, **Państwowa Szkoła Baletowa** — internat (tancerz).

**Warszawa,** ul. Moliera 2/4, **Państwowa Szkoła Baletowa** — internat (tancerz, nauczyciel zawodowych przedmiotów baletowych).

A.K.




(Працяг са стар. 1)

установы па палітэканоміі сацыялізма.

Навуку спыніла вайна, а летам 1944 года трапіў у II Польскую Армію і разам з ёю прайшоў баявы шлях ад Нысы да чэшскай Прагі. Ваяваў адважна. Закончыў вайну з мноствам медаляў. Пасля служыў у Познані. Там, здаўшы экзамены, атрымаў атэстат сталасці. Камандванне адпусціла яго ад ваеннай службы, і Лукашук стаў студэнтам Пазнаньскага універсітэта. Быў тады ўжо актыўным дзеячам Саюза барацьбы маладых — ЗВМ. Аляксандру далі стыпендыю. Дзіўная была гэта стыпендыя — тры дні ў тыдзень заработнай працы ў познанскім банку. І так было на працягу ўсіх гадоў яго навукі. Вучыўся і працаваў. Ды не толькі. Увесь час актыўна дзейнічаў у студэнцкіх арганізацыях. За працу «Вартасць і цана ў Карла Маркса» атрымаў тытул магістра. Пасля яшчэ тры гады папаўняў свае веды ў Ленінградзе. Вярнуўся кандыдатам эканамічных навук і спецыялістам па нацыянальнаму даходу. Міністэрства вышэйшага школьніцтва прысвоіла яму званне намесніка прафесара і накіравала яго ў Катавіцкую Вышэйшую эканамічную школу. Там давялося Лукашуку быць і дэканам факультэта эканоміі прамысловасці, і нават намеснікам рэктара школы. У 1961 годзе Міністэрства перавяло яго ў Вроцлаў.

— Два гады таму назад астаткова пакінуў я пасаду намесніка дэкана, — кажа дацэнт Лукашук, — хачу больш часу прысвяціць навуковай рабоце. Надта ж многа займаўся я дагэтуль адміністратыўнай працай.

— Якія ў Вас адносіны да Беласточчыны? — пытаю.

— Бываю ў сваіх родных старонках даволі часта, наведваю бацькоў, праводжу там водпуск, сачу за гаспадарчым развіццём гэтага кутка нашай краіны, і вельмі мне прыкра, што даволі часта прыходзіцца чытаць і слухаць крытычныя заўвагі адносна гаспадарчых спраў Беластоцкага ваяводства. Калі б знайшлося для мяне адпаведнае месца і памяшканне, ахвотна нават пераехаў бы ў Беласток, каб там працаваць. У Беластоку і на Беласточчыне шмат у мяне сардэчных сяброў.

**Віктар Рудчык**




Ад 1969 г. паўстане закрыты раён прадукцыі бульбы на насенне ў Страблі пад назваю «Лапце». Назва выводзіцца — як інфармаваў нас аграном **Р. Белаказовіч** з «Цэнтралі насеннай» у Бельску — ад вёскі Лапце, якая ў гэтым годзе закантрактавала ўжо 40 гектараў бульбы. Раён наогул будзе ахопліваць 8 вёсак, з якіх гаспадары ўжо закантрактавалі 250 гектараў бульбы.

Восенню мінулага года гаспадары гэтага ж раёна прадалі 600 тон бульбы, з чаго 269 тон пайшло на экспарт.

Нам давялося назіраць высылку бульбы «Фіта» з успомненага раёна вясною г.г. Каб выслаць такую бульбу, неабходна правесці доследы. І так, на станцыі ў Страблі па якасці бульбу даследваў **інж. У. Куна** з «Цэнтралі насеннай» у Бельску. Але не толькі тут важная якасць. Разыходзіцца пра тое, каб не распаўсюджваць розных бульбяных хвароб, якія можа выкрыць толькі вока спецыяліста. Дзеля гэтага прысутнічаў тут прадстаўнік Павятовай станцыі каранціну і аховы раслін. Быў ім **мгр інж. Я. Васілюк.**

Мы папрасілі аб некалькі слоў мгра інж. Васілюка:

— Наша заданне — гэта не толькі не выпускаць падазроных хваробамі раслін і насення, але і не дапускаць іх на тэрыторыю нашага павета, а гэта ўсё на тое, каб яны не распаўсюджваліся. Так што, напрыклад, «Цэнтраля насенна» без нашай згоды абсалютна не мае права высылаць насенне куды-небудзь. Мы тут, на месцы ў самаходзе, маем падручную лабараторыю, але справа на гэтым не канчаецца. Я збіраю пробкі такой бульбы. Даследваем яе ва ўласнай лабараторыі, высылаем у ваяводскую лабараторыю, а нават у Інсты-



Інжынер У. Куна (першы справа) і мгр інж. Я. Васілюк (другі злева) даследуюць кожны мяшок бульбы.



© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# ХЛЕБ НА АБЛОГАХ

Розныя прычыны склаліся на тое, што ў нас на Беласточчыне зямля ляжыць аблогамі.

На весну 1962 года адбылося ў Беластоку супольнае пленарнае пасяджэнне Ваяводскіх камітэтаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі і Аб'яднанага стронніцтва людовага. Дзеячы адной і другой партыі заняліся абмяркоўкай загаспадаравання дзяржаўнай і безгаспадарскай зямлі. Аказалася тады, што на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства такой зямлі знаходзіцца аж 87.600 гектараў. Цяжка ўявіць сабе такі абшар. Гэта ж звыш 15 тысяч добрых, сярэдніх гаспадарак, гэта ж, скромна лічачы, звыш 13 тысяч тон збожжа.

Пачалося наступленне на аблогі. Узніклі новыя дзяржаўныя сельскія гаспадаркі — у Дыдулях, Бельскага павета, Рафалоўцы, Беластоцкага павета і інш. Безгаспадарскай зямлёй заняліся шматлікія сельскагаспадарчыя гурткі і некаторыя спулдзельні прадукцыйныя. У Крынках на Сакольшчыне ўзнік новы невядомы дагэтуль тып сельскагаспадарчай вытворчай арганізацыі для калектыўнага гаспадаравання зямлёй — сельскагаспадарчы асьродак. Калісьці давялося мне абшырна аб ім пісаць. Зараз толькі прыпомню, што крынкаўскі асьродак мае ў сваім распараджэнні 354 гектары зямлі, што ў мінулым годзе дабіўся ён ураджаю ў звыш 16 цэнтнераў жыта з кожнага гектара, а лёнdaў там па звыш 32 цэнтнеры валакна з кожнага гектара. Вынікі гэта не рэкордныя, але высокія, вышэйшыя за сярэднія для суседзяў аднаасобнікаў. Гэта дзякуючы багатаму ўгнаенню поля штучнымі ўгнаеннямі. Пад жыта на палях асьродка выпала па 109 кілаграмаў хімічна чыстага рэчыва азоту, фосфару і калію. На кожны гектар пад лён — аж 154 кг NPK.

Зараз 154 сельскагаспадарчыя гурткі займаюцца супольнай апрацоўкай зямлі. Дзякуючы іх намаганням каля 3 тысяч гектараў зямлі пачало зноў даваць хлеб. Найбольшы абшар зямлі — звыш 100 га — мае ў сваім распараджэнні сельскагаспадарчы гурток у вёсцы Хомантоўцы, Беластоцкага павета. Добра гаспадарue на дзяржаўнай зямлі сельскагаспадарчы гурток у Саках, Гайнаўскага павета. Зямлю ён мае дрэнную — у V і VI класах. Аднак штучнага корму для гэтай зямлі не шкадуе. Пад жыта — 176 кг NPK на га, пад бульбу яшчэ больш. Дык не дзіва, што на гэтым пясчаным грунце жыта сыпанула аж па 27 цэнтнераў з гектара, а бульба — па 296 цэнтнераў.

Дагэтуль рознымі спосабамі загаспадаравана на Беласточчыне 32 тысячы гектараў безгаспадарскай зямлі. Толькі адны сельскагаспадарчыя гурткі на працягу апошніх 4-х год прадалі дзяржаве 1.700 000 тон збожжа і 1.500 000 тон бульбы.

Трэба цешыцца, што зямля дае хлеб, але няма, на жаль, асноў, каб спяваць вясёлыя песні. То ж усё яшчэ ляжыць аблогай звыш 50 тысяч гектараў зямлі. Неаднойчы цяжка яе нават знайсці. Расплылася недзе сярод сялянскіх палосак.

**М. Нурэцкі**

---

тут у Познані. Усё гэта на тое, каб максімальна ўпэўніцца адносна здароўя раслін.

— Ці не думаеце, што гаспадар занадта тут чакае, траціць час? — пытаемся таварыша Васілюка.

— Я поўнасцю з вамі згодны. Можа ж быць і так, што мы толькі падазраем, але лабараторыі пакажуць, што бульба не мае хвароб (хаця гэта рэдка здараецца), і тады гаспадар зусім пакрыўджаны. І таму, калі з арганізацыйнага боку час дазваляе, мы стараемся даехаць на месца да гаспадара і там зрабіць доследы. Каб так можна было рабіць, нам неабходна ведаць на дзён 5 наперад спісак гаспадароў, якія будуць высылаць бульбу. А тым часам «Цэнтраля насенна» паведамляе нас на дзень-два перад высылкай.

Сапраўды гэтая справа не ўладжана. Не ўладжана зверху ўніз таму, што Аддзел «Цэнтралі насеннай» у Бельску атрымоўвае заказ на высылку з ваяводскага цэнтра таксама позна і гэта часта па тэлефоне. Пара было б ужо ўладзіць гэтую крыўдную гаспадарам справу.

А. К.

Фота аўтара

# ЧЫН СЕМЯНОЎКІ

У гонар свята працоўных 1 Мая і V з'езда ПАРП жыхары вёсак ГРН Семяноўка прынялі рознага тыпу і размеру чыны. Перш за ўсё датычаць яны пабудовы дарог, якія спалучаць гэты куток Гайнаўшчыны з гарадскімі цэнтрамі.

24 кастрычніка г.г. пры пабудове дарогі Семяноўка — Лука працавала каля 30 чалавек, якія выкапалі 100 метраў рова. План работ прадбачвае: праставанне вуліцы ў Семяноўцы — 200 метраў і пабудову 300 метраў дарогі з Пасек у Заброды.

Як нас паінфармаваў сакратар ГРН у Семяноўцы **Юрка Кіслы**, агромную ролю ў ініцыяванні і арганізацыі чыну ў Семяноўцы адыгрывае мясцовы гурток БГКТ.

Вартасць запланаванага чыну на гэты год аблічана на 310 тысяч зл. Тутэйшыя дзеячы здаюць сабе справу, што гэта план невялікі, але, як гавораць, лепш яго перавыканаць, як мець цяжкасці з выкананнем. Мінулыя гады сведчаць аб тым, што накрэслены план чынаў будзе перавыкананы.

Семяноўка, узорам мінулага года, прыступіла да конкурсу на найчысцейшую сядзібу ГРН. У мінулым годзе Семяноўка заняла ў павеце трэцяе месца за Кляшчэлямі і Белавежай. Трэба мець надзею, што ахвярнасць дзеячаў арганізацыі і ўсяго насельніцтва зноў прынясе Семяноўцы высокія ацэнкі конкурснай камісіі, а самім жыхарам чыстату і культуру.

А.К.



**На здымку: На дарозе Лука — Семяноўка працуе жыхар вёскі Семяноўка Павел Матысюк.**

**Фота: Я. Цялушэцкі**

# Беластоцкія каровы

Маем іх каля 46 штук на кожныя 100 га зямельных угоддзяў і такім чынам адстаем ад сярэдняга ўзроўню для цэлай краіны на 9 штук.

Кароў не толькі ў нас мала, але іх якасць таксама недастаткова. А вось факты, якія пацвярджаюць гэтае:

— сяляне Беласточчыны толькі няпоўных 5 працэнтаў кароў прадаюць як матэрыял 1-га класа. У краіне (1966 год) у першым класе прадаецца звыш 30 працэнтаў кароў;

— сярэдняя вага беластоцкіх каровак, якія ідуць на продаж, на 40 кг ніжэйшая ад сярэдняй дзяржаўнай;

— недастатковая малочнасць нашых каровак.

Усё гэта разам крыху прыцямняе радасны малюнак гэтай шырокай і глыбокай ракі малака, якая на працягу некалькіх апошніх гадоў плыве ў малачарні.

У Беластоцкім ваяводстве няма філіялаў Саюза гадоўцаў быдла. Яго арганізатарскую дзейнасць, пачынаючы ад 1967 года, стараюцца падмяніць сельскагаспадарчыя гурткі. Па іх ініцыятыве ўзнікла ў нас 400 гуртоў гадоўлі жывёлы. Магчыма яны задбаюць аб павышэнне колькасці і якасці беластоцкага быдла. Актыўна дапамагаюць ім гурткі вясковых гаспадынь і маладзёжныя калектывы гадоўцаў жывёлы. Яны ўдзельнічаюць у конкурсах гадоўлі пародзістых цялят і іншай жывёлы. Жадаем поспехаў.

(вр)

# ЦЫРК „ВАРШАВА“



Як мы ўжо паведамлялі, на Беласточчыну прыехаў вядомы цырк «Варшава». Выступаў ён ужо ў некалькіх паветах нашага ваяводства, а цяпер дае свае прадстаўленні ў Беластоку. У цырку «Варшава» гасцінна выступаюць таксама заграічныя артысты. На здымку вы бачыце групу савецкіх вальтыжораў Сабалеўскіх, якім наш карэспандэнт зрабіў сямейнае фота перад разбітымі цыркавымі палаткамі.

Цырк «Варшава» ў Беластоку будзе выступаць да 20 мая.




## РАЗВІЦЦЁ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ І КУЛЬТУРЫ Ў БССР

У Савецкай Беларусі пасля канчатковай перамогі над унутранымі і знешнімі ворагамі рабочыя і сяляне пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі прыступілі да будаўніцтва новага сацыялістычнага грамадства. Дзякуючы правільнай палітыцы савецкай улады, ахвярнасці працоўных хутка была адноўлена з ваенных знішчэнняў народная гаспадарка і былі закладзены падставы да далейшага сацыялістычнага будаўніцтва. Ужо ў 1926 годзе прамысловасць і сельская гаспадарка дасягнулі даваеннага ўзроўню. Не стала беспрацоўя.

Жыццё патрабавала далейшага няспыннага развіцця народнай гаспадаркі і культуры і перш за ўсё сацыялістычнай прамысловасці. Таму неабходным стала апрацаваць на навуковых падставах заданні кожнай дзялянцы гаспадарчага і культурнага будаўніцтва на будучыню. Так паўстаў першы пяцігадовы план (1928—1932 г.г.). У выніку яго выканання ў Савецкай Беларусі было пабудавана звыш 500 новых прадпрыемстваў, сярод іх і такія, як панчошнатрыкатажная фабрыка ў Віцебску, у якой працавала каля 10 тысяч рабочых. Паўсталі новыя галіны прамысловасці: машынабудаўнічая, хімічная, трыкатажная, швейная і іншыя. Беларусь стала рэспублікай перадавой сацыялістычнай прамысловасці. Сельская гаспадарка Савецкай Беларусі перайшла на рэйкі новага калектыўнага гаспадаравання. Беларусь стала рэспублікай буйнага сацыялістычнага земляробства.

У выніку выканання другога пяцігадовага плана (1933—1937 г.г.) у Савецкай Беларусі было пабудавана каля 1200 прамысловых прадпрыемстваў, у тым ліку шмат электрастанцый. Выпрацоўка электраэнергіі ў параўнанні з 1913 годам павялічылася ў 100 разоў. Найхутчэй развіваліся металаапрацоўчая, тарфяная, шкляная, тэкстыльная прамысловасць. У сельскай гаспадарцы канчаткова перамог калгасны лад. Сяляне сталі жыць заможна і культурна.

Дзякуючы магутнаму развіццю народнай гаспадаркі небывалага росквіту дасягнула беларуская асвета і культура.

Сярод дарослага насельніцтва была ліквідавана непісьменнасць. Усе дзеці школьнага ўзросту вучыліся. Калі за панавання царызму ў Беларусі не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы, у гады савецкай улады ў Беларускай рэспубліцы паўстала 25 вышэйшых школ, у якіх вучылася звыш 20 тысяч студэнтаў. Яны рыхтавалі дзесяткі тысяч спецыялістаў — настаўнікаў, лекараў, эканамістаў, аграномаў, юрыстаў для народнай гаспадаркі, культуры і навукі.

Вялікія дасягненні ў навуковых даследваннях здабывалі вучоныя. Цэнтрам беларускай навукі стала Акадэмія навук БССР.

Буйна развівалася беларуская літаратура. Побач з выдатнымі пісьменнікамі старэйшага пакалення Якубам Коласам, Янкам Купалам, Змітраком Бядулем, Цішкам Гартным разгарнулі сваю багатую творчасць маладыя таленавітыя паэты, празаікі, драматургі, літаратурныя крытыкі як Міхась Чарот, Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Міхась Лынькоў, Паўлюк Трус, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў і дзесяткі іншых творцаў. Развіццю і пашырэнню твораў мастацкай літаратуры спрыяла значная колькасць выдавецтваў, дзесяткі газет і часопісаў, якія сталі выходзіць у Савецкай Беларусі.

Усебакова развівалася беларуская музыка, тэатр, жывапіс, скульптура, архітэктура.

Прававым актам, які замацоўваў перамогу сацыялізма ў БССР, была новая канстытуцыя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, зацверджаная Усебеларускім з'ездам Саветаў 19 лютага 1937 года.

*ПЫТАННІ*

*1. Якія вынікі прынясло выкананне заданняў першага і другога пяцігадовых планаў развіцця народнай гаспадаркі і культуры ў БССР?*

*2. Як развівалася ў БССР асвета, літаратура і культура?*

*3. Калі была прынята новая канстытуцыя БССР?*

**Чытайце і распаўсюджвайце „НІВУ“**



© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

**ДНІ АСВЕТЫ, КНІГІ і ПРЭСЫ**

# ПОЛЬСКАЯ НАВУКА СЕННЯ

У Польшчы маем цяпер 76 вышэйшых школ (32 да вайны).

Штогод выходзіць з іх 20 тысяч абсальвентаў.

Навукова-дыдактычную працу ў вышэйшых школах вядзе 24.411 асоб, у тым 3.875 — самастойныя працаўнікі навукі (прафесары і дацэнты).

Навукова-даследчых інстытутаў прамысловасці маем 104 (15 да вайны). Маюць яны 8.939 працаўнікоў.

**Польская Акадэмія навук** паклікана ў 1952 годзе. Гэта самая высокая навуковая ўстанова ў краіне. Маем 83 навуковыя цэнтры. Працуе ў ёй разам 4.833 асобы, у тым 540 прафесараў і дацэнтаў, 1.684 ад'юнкты.

Ва ўсіх навуковых цэнтрах Польшчы працуе разам 32.432 навукова-даследчых працаўнікоў і 21.942 інжынерска-тэхнічных працаўнікоў.

Польская Акадэмія навук мае 238 краёвых членаў і 84 заграніччныя. Гэта самыя высокія спецыялісты і вучоныя. Сярод загранічных 24 вучоныя савецкія, між іншым, акадэмікі: М. В. Келдыш, А. Калмагораў, Т. Капіца, А Несмеянаў, І. Там.

Па ініцыятыве і пры дапамозе Акадэміі развіваюцца ў Польшчы галіны навукі, раней невядомыя: ядзерная фізіка, фізіка цвёрдых цел, фізіка паўправаднікоў, квантавая электроніка, аўтаматыка, тэарэтычная і стасаваная механіка, электронная тэхналогія, тэхніка аблічання.

Як бачым гэта галіны навук, развіццё якіх мае самае істотнае значэнне ў прагрэсе краіны.

Таксама зрэшты і ў эканоміі, медыцыне ўплыў Акадэміі карысны і вялікі.

Вялікія дасягненні мае Польская Акадэмія ў матэматыцы, мовазнаўстве, славянскай археалогіі, гісторыі, сацыялогіі, палеазаалогіі палеабатаніцы, паразіталогіі, геаграфіі і геалогіі.

Зараз большую ўвагу трэба звярнуць на біяхімію, біяфізіку, генетыку, мікрабіялогію, фізічную хімію, а ў грамадскіх навуках — на праблемы ўплыву індустрыялізацыі і тэхнічнага прагрэсу на жыццё чалавека. (вл)

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

## З СЯРЭДНЕВЯКОЎЯ Ў СУЧАСНАСЦЬ

Краіна Непал, у высачэзных Гімалаях, паміж Індыяй і Кітаем. Бутэлька піва ў Катманду, сталіцы Непала, каштуе адзін долар, бо піва — і газаваную ваду! — завозіцца сюды з Індыі. У рэстаране гатэля «Гімалайя» перапрашаюць з сорамам, што ад некалькіх дзён няма хлеба. На вуліцы Нью Рад, галоўнай артэрыі Катманду, можна падпасці пад колы камфартабельнага аўта-кадылака або пад ногі вялізнага слана. У святочны дзень пабачыш, як шаман рэжа ягня, каб яго крывёю адагнаць злыя духі ад транзістаравага радыёпрыёмніка, які якраз папсаваўся. Убачыш часамі натоўп людзей, якія страсна моляцца да дванаццацігадовай дзяўчынкі, абранай на Кумары, жывую багіню... Жывой багіняй застанецца яна да часу з'яўлення ў яе першай менструацыі.

Нявольніцтва ліквідавана тут афіцыяльна ў 1924 годзе, але перажыткі нявольніцтва трываюць па сённяшні дзень. Члены некаторых горных плямёнаў надалей маюць сэрвітутавы абавязак насіць на сваіх плячах каралеўскіх ураднікаў у час іх службовага падарожжа. Адзін лекар на сорак тысяч жыхараў. Абсалютны рэкорд свету ў паміральнасці малых дзяцей: памірае ў сярэднім 244 на адну тысячу нованароджаных. У многіх ваколіцах яшчэ ніхто ніколі не бачыў еўрапейскага чалавека. Існуе некалькі таемных варварскіх княстваў у прыгранічных раёнах. Поле апрацоўваюць тут матыкамі, ніхто не бачыў і не чуў пра драўляную саху, а нават пра кола (калясо). Мешаніна расаў, моваў, нацый, рэлігій і звычаяў. Чыгуначныя білеты — сімвал хуткасці — ужываюць тут у якасці бясцэнных амулетаў з мэтай... прысяшэння родаў!

Нягледзячы на статыстычна ніжэйшы чым у суседняй Індыі жыццёвы стандарт — не відаць у Непалі галадранцаў і заморанікаў, а жабрак тут вельмі рэдкая з'ява. Тутэйшыя беднякі маюць у што адзецца і маюць што ўкінуць у гаршчок. Мясцовыя багацеі, гэта толькі сярэднезаможныя людзі. Няма так тыповай для Азіі розніцы паміж бядою і багаццем. Здзіўляючая тут згоднасць і ўзаемная пашана, у якой жывуць мясцовыя плямёны і нацыі.

Катманду — у прыраўнанні да рэшты краіны — пазбываецца змрочнага мінулага; ёсць ужо нават адзін неон, на гатэлі Каранатыён. Аднак, развіццё краіны сур'ёзна тармазіць адсутнасць дарог у гэтай кішкападобнай дзяржаве. Мяшок рысу, сабраны ў даліне Катманду, чакае арыгінальнае падарожжа, пакуль дастануць яго ў Заходнім Непалі. Непальскі ўнутраны гандаль адбываецца праз тэрыторыю Індыі.

Спосабам напраўду саламонавым удалося непальскаму ўраду ўладзіць добрыя адносіны з Кітаем: у Непалі знаходзіцца некалькі дзесяткаў тысяч тыбецкіх бежанцаў, якія часта праводзяць узброеныя напады на кітайскую граніцу. Усе яны знаходзяцца ў княстве Мустанг, абсалютна недаступнай ваколіцы, дзе валадарыць князь Трандул. Непальскі каралеўскі ўрад у такой сітуацыі прызнаў поўную незалежнасць Мустанга, звальваючы такім чынам на яго адказнасць усе паслядоўнасці, вынікаючыя з факту знаходжання ўзброенай тыбецкай эміграцыі.

На вуліцах Катманду аж густа ад амерыканцаў і... амерыканскай помачы. Вынікі гэтай амерыканскай дапамогі ніякія, амерыканцы не лічацца са спецыфікай гэтай краіны. Кароль Непала, Махендра, калі часамі ўхіляецца ад нейтральнай палітыкі, дык робіць гэта ў левым напрамку, прагрэсіўным. Гэта адзін з нямногіх каралёў, што засталіся яшчэ на свеце, які спрыяе прагрэсіўным сілам. Кароль малюткага Непала, паміж двума гігантамі — паміж Індыяй і Кітаем — дацэньвае вартасць і прыдатнасць палітыкі прагрэсіўных сіл, якія змагаюцца супроць імперыялістычнай гегемоніі. (а-ся)



Закутак Катманду — дзяўчаты ля калодзежа.

## ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

**Біткі, тушаныя ў смятане**

Каля 600 грамаў маладой ялавічыны парэжце на скрылёчкі, адбіце малатком і абсмажце ў моцна разагрэтым тлушчы (саліць і абсыпаць мукой не трэба). Абсмажаныя біткі складзіце ў каструльку, перасыпаўшы кружочкамі цыбулі і скрылёчкамі салодкага балгарскага перцу (можна ўзяць кансерваваны, толькі змыйце лішні воцат). Злёгку пасыпце кожны слой соллю і перцам, заліце смятанай (1 шклянка), прыкрыйце і тушыце на слабым агні, пакуль мяса не стане мяккае.

**Мала, але цікава**

## Тунель пад морам

У Японіі запланавана збудаванне 36-кіламетравага падводнага тунеля, які будзе гатовы да эксплуатацыі ў 1975 годзе.

Праведзены пад Японскім морам тунель злучыць зручным шляхам астравы Хансю і Хакайда — самы вялікі з самым паўночным з чатырох астравоў Японскага архіпелага. Гіганцкі тунель, будаўніцтва якога будзе каштаваць 100.000 мільёнаў іен (1.370.000.000 франц. франкаў), будзе абслугоўвацца выключна электрапаяздамі. Пасля Ламаншскага тунеля, закліканага ў будучым злучыць Францыю з Англіяй (52 км, з якіх 36 — пад вадой), гэта будзе самы доўгі тунель у свеце.

## Электроніка і хваробы сэрца

Савецкія лекары штораз больш прымяняюць электранічную тэхніку ў дыягностыцы хвароб сэрца. У апошнім часе, напрыклад, санаторый у Кіславодску карыстае з дапамогі лічыльнага цэнтра абсталяванага электранічнымі матэматычнымі машынамі да расшыфроўвання электракардыяграмаў, якія атрымліваюцца ў часе рэестрацыі функцыянальных токаў мышцаў сэрца. Даныя адпаведна запраграмаваныя высылаецца тэлетайпам (далекапісам) да лічыльнага цэнтра, дзе ў памяці машыны перасоўваюцца апісанні розных хвароб сэрца адпаведна закадаваныя. Машына аналізуе і параўноўвае атрыманыя даныя і стаўляе дыягноз, які перасылаецца тэлетайпам у санаторыю. (А-ка)




Кранаўшчык і рыжабароды вярнуліся ў пячору і гутараць з Абстам. Гаворыць кранаўшчык. Цяпер Карцаву ўжо ясна, што пад'ём з вады грузаў і буксіроўшчыкаў — толькі пабочны занятак гэтага чалавека. Галоўная яго спецыяльнасць — радыё: жыхары грота звязаны са сваімі гаспадарамі ў Германіі і, апрача таго, маюць кантакт з ваенна-марской базай працiўніка. Там дзейнічае іх памочнік. Аб данясеннях агента і дакладвае цяпер радыст.

Абст слухае разгублена, быццам усё, што расказвае радыст, яму ўжо вядома. Ён сядзіць на табурэце, бокам абаперыўся аб сцяну, быццам дрэмле.

Радыст закурвае і працягвае дакладваць:

— А асуджаны спрабаваў уцякаць!

— Што? — Абст выпростоўваецца. — Я не дачуў. Вы сказалі: ўцёк?

— Спрабаваў, шэф. Скочыў за борт, калі яго вялі ў прыбіральню. Вартаўнік яшчэ ў паветры прастрачыў яго з аўтамата. Каменем пайшоў на дно.

Карцаў затаіў дыханне, каб не прапусціць нічога, што яшчэ будзе сказана аб яго ўцёках. Але Абст мяняе тэму гутаркі.

— Што з італьянцамі? — пытае ён. — Учора вы дакладвалі: лодка разлічвае прыйсці праз тыдзень. Нічога новага няма?

— Нічога новага, шэф.

— Італьянцы... — Абст свідруе стаячых перад ім людзей. — Вы павінны ведаць, я даўно палюю за адным з іх.

— Джорджо Пела? — перабівае Вальтэр.

— Ён вам вядомы?

— Яшчэ б! — Радыст усміхаецца. — Дасканалы плывец, шэф! Я сустракаўся з ім да вайны, на матчы ў Італіі.

— Мне давялося бачыць яго ў іншых абставінах, — задуменна гаворыць Абст. — Ён спускаўся з дыхальным апаратам... Ну, Глюк, як глыбока вы спускаліся на кіслародзе?

— Ніжэй трыццаці не хадзіў, — гаворыць рыжабароды. — Чуў, быццам некаторым удаецца апускацца на сорак метраў. Але я не магу. Аднойчы паспрабаваў — ледзь не апынуўся на тым свеце. Вось Вальтэр мяне і выцягнуў.

— Ну дык ведайце: Пела нырае на сто пяць метраў!

— Як яму ўдалося? — мармыча Глюк.

— Не ведаю, хоць і дагадваюся. — Абст задумваецца. — Хутка мы ўсё даведаемся. Цяпер Пела ў нас у руках. Першым чынам я застаўлю яго спусціцца да «Віперы». Дарэчы, раней мы паспрабуем і іншую магчымасць дабрацца да сейфа нябожчыка Брэтмюлера.

— Маеце на думцы Леанарда? — пытаецца радыст.

— Думаю, ён згодзіцца... Цяпер аб Марце Рышэр. Баюся, яна ў цяжкім стане. Параліч абедзвюх ног.

— І гэта надоўга, шэф? — пытаецца радыст.

— Відаць, так. І выхад адзін. Вы, Глюк, прыймаеце на сябе яе абавязкі.

— Выбачайце, шэф.

— Я разумею ўсю цяжкасць задання, — працягвае Абст. — Толькі вопытны лекар можа справіцца з двума тузінамі істот, у кожнай з якіх дрэмле звер, гатовы ўчапіцца табе ў горла.

— Менавіта так, шэф!

— Як бачыце, я нічога не скрываю. Вы павінны ведаць усё. Першыя дні я буду з вамі, навучу кантраляваць іх і справа пойдзе.

— Не магу, шэф, — Глюк не ўтойвае страху. — Карміць іх і паганяць — самае лёгкае. Галоўнае ж, вы ведаеце, не гэта... Галоўнае, каб яны не ўзвар'яцелі. Баюся, што пралічуся. А вы ведаеце, чым гэта пахне!

Абст моршчыцца, быццам у яго баліць галава.

— Значыць, адказваецеся? — гаворыць ён. — Добра, тады імі займуся я.

— Гэта не выхад. Трэба радзіраваць, каб прыслалі замену.

— Зразумела, лекара мы запатрабуем. Але давядзецца чакаць месяц, калі не больш. Месяц я буду бяздзейнічаць... Глюк, вы павінны згадзіцца!

— Не дамагайцеся, шэф.

Абст устае.

— Вырашана, — гаворыць ён. — Да прыбыцця лекара мы спыняем баявую работу.

І ён адыходзіць.

Неўзабаве ён вяртаецца.

— Глюк, адзявацца!

Рыжы ўстрасянуўся.

— Што здарылася, шэф?

— На скале — чалавек.

— Што?..

— Чалавек на ўсходнім схіле ляжыць каля самай вады. Я ўбачыў яго ў перыскоп.

— Ён жывы?

— Не ведаю.

Абст выходзіць. Глюк і Вальтэр ідуць следам.

*

Трое жыхараў падзямелля ўцягваюць у пячору двухметровы шэры цыліндр.

— На стол! — камандуе Абст, накіроўваючыся да шафы з медыкаментамі.

Памочнікі ўкладваюць цыліндр на абітым цынкам стале.

— Адкрывайце! — кідае Абст.



© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# ТРЫБУНА чытачоў

### У ПЛЁСКАХ

У Плёсках арганізавана «Клуб рольніка», якім загадвае Толік Дзмітрук. Дбае ён аб чысціню. На століках стаяць кветкі, на вокнах вісяць прыгожыя фіранкі. Моладзь наведвае з задавальненнем клуб. Праводзіць культурна час чытаючы часопісы, газеты, аглядае тэлевізійныя перадачы, ці іграе ў шахматы.

✲

Новы этап дзейнасці пачаўся ў плёскаўскай пажарнай камандзе. На сходзе 7.IV.68 г. пажарнікі выбралі новага старшыню. З'яўляецца ім Мікалай Ануфрыюк. У склад дружыны прынялі некалькі новых членаў. Цяпер налічвае яна 24 асобы. Многія пажарнікі маюць ужо кваліфікацыі ў галіне пажарніцтва. Пажарнікі пастанавілі правесці праверку комінаў і стрэх, а таксама праверку заінсталяваных электрычных провадаў. У нядзелі пажарнікі праводзяць кароткія трэніроўкі з тактыкі, паслугоўваючыся адпаведнымі прыладамі.

✲

Мары жыхараў Плёсак аб сучаснай малачарні і краме збываюцца. З наступленнем цяпла прыбывае штораз больш пустакаў і жвіру на месца будовы.

Аганёк
Плёскі

### У ГОНАР З'ЕЗДА ПАРП

У сувязі з Першамаем і V з'ездам ПАРП гайнаўскі ПЗГС падняў грамадскі чын на суму 20 тысяч зл. Працаўнікі ПЗГС выканаюць супрацьпажарны басейн, зробяць агароджу базы ПЗГС, заложаць тралінку на абшары 2000м², упарадкуюць пасаджаныя дрэўцы і пасадзяць новыя, упарадкуюць пляц паміж складамі, выбудуюць фундамент пад апакавачны склад. Кожны працаўнік гайнаўскага ПЗГС задэклараваў перапрацаваць у чыне 4 рабочагадзіны.

**Янка Цялушэцкі**

### МАТЭМАТЫЧНЫ ТУРНІР

Нядаўна ў бельскім беларускім ліцэі быў праведзены акруговы матэматычны турнір. Сабралася сюды 32 асобы з першых класаў агульнаадукацыйных ліцэяў.

Першае месца заняў Андрэй Літвінец з агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы, другое — Надзя Прахарук з бельскага беларускага ліцэя і трэцяе — Альжбета Гадлеўская з агульнаадукацыйнага ліцэя ў Цеханоўцу. Трэба адзначыць, што бельскі беларускі ліцэй стаіць у радах перадавых ліцэяў моцных па матэматыцы. За гэта сардэчныя словы падзякі належацца настаўнікам Мікалаю Красоўскаму і Лідзіі Валасевіч.

В. Леанюк
Бельск Падляшскі




**Дарагое Сэрцайка!**

Адчуваю сябе шчаслівым, што мог калісьці па-сапраўднаму кахаць. І не шкадую таго, хоць цяпер вельмі цяжка перажываю. А вось цэлая гісторыя майго кахання. Пазнаёміўся я з Верай 4 гады таму. Прыехала да нас на працу, і так мы з ёю пасябравалі. Мы пакахалі адзін аднаго. І то шчыра. І хоць мы розніліся поглядамі на некаторыя жыццёвыя справы, аднак тады гэта не перашкаджала. Я паходжу з вёскі, маю гаспадарку, люблю працаваць на вёсцы і ніколі не думаю нідзе выязджаць, хаця і мог бы знайсці якую-небудзь працу. Цяпер вясна, поўна работы, аднак і работа не можа заглушыць маёй пакуты. Маю ўжо 30 год і задумоўваюся, ці мог бы я цяпер быць шчаслівым, выракаючыся сваіх поглядаў, амбіцыі — усё ў імя кахання? Ці выракаючыся свайго «я» не страціў бы я і свайго кахання? Вера адыйшла ад мяне, а калісьці гаварыла, што розніца ў нашых поглядах не стане нам на перашкодзе. І мо таму яшчэ больш перажываю, што адыйшла ад мяне толькі з тае прычыны. Напэўна мне было б лягчэй, калі б яна адыйшла з іншым, але Вера нават не ходзіць з ніякім хлопцам.

Аднак мушу перажыць гэтае, ператрываць, калі хачу быць сабой. А што ты аб гэтым судзіш, Сэрцайка? Ці можна мець надзею, што яшчэ не ўсё страчана, нават калі маецца 30 год?

**Дарагі Міша!** Мне здаецца, што і ты і твая дзяўчына пакутуеце непатрэбна, непатрэбна выракаецеся свайго шчасця. Вы ж людзі маладыя, сучасныя і ці сапраўды не знойдзеце супольнай мовы? Чатыры гады вашага кахання ўжо аб нечым сведчыць, што яно не галаслоўнае, яно трывалае, праўдзівае. А вы адкідаеце яго так лёгка, як быццам бы яго лёгка было знайсці. Падумайце! Ты сам, Міша, таксама падумай, ці тваё «я» слушнае, ці ты не перабольшваеш са сваім «я». У 30 год няма патрэбы сумнявацца над тым, што ўсё страчанае, мінулае. Гэта ж самы прыгожы ўстойлівы ўзрост у жыцці чалавека. Ты сустрэнься з Верай, пагаварыце, разважце. Вы павінны ў пэўных справах уступіць адзін аднаму. Інакш жа ж не можа быць, у тым жа заключаецца сямейнае жыццё.

**„НІВА" — ТВОЙ НАЙЛЕПШЫ ПРЫЯЦЕЛЬ**

### ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ

У жніўвені ў Гіжыцку пачнецца сусветны чэмпіянат парусьнікаў у класе «Cadet». Як вядома, нашыя наймалодшыя ўдзельнікі рэгатаў ужо два разы здабылі чэмпіянат свету ў гэтым класе. Зараз, пасля зімовай трэніроўкі ў сваіх радзімых асродках і клубах, Польскі саюз парусьнікаў арганізуе трэніроўкі для палепшання формы над Жэгжынскім залівам. У ім возьмуць удзел таксама юніёры ў класах «Hornet», «OK Dinghy» і «Finns».

**Ян Даміноўскі**
Варшава
фота аўтара



**Лодкі класа «Cadet» на трасе спаборніцтваў.**

### КАНФЕРЭНЦЫЯ КІРАЎНІКОЎ ШКОЛ

24 красавіка ў Доме тэхніка ў Беластоку адбылася канферэнцыя кіраўнікоў школ беластоцкага павета, у якой узяло ўдзел 100 асоб. Тэмай канферэнцыі было: «Дасягненні ў навучанні ў выніку правядзення аналізаў кантрольных прац школьнікаў». Канферэнцыю адкрыў інспектар Эдмунд Жмійка. Даклад чытаў намеснік інспектара Тадэуш Дабкоўскі. Некаторыя школы маюць добрыя дасягненні. Да іх належыць перш за ўсё школа ў Падазяранах. У дыскусіі настаўнікі гаварылі аб цяжкасцях у сваёй працы. Вельмі цікава выступаў сябра Галіцкі з Залешан. Звяртаў ён увагу на тое, што не лёгка дзецям паступіць у прафесіянальныя або сярэднія школы. Пасля голас забраў прадстаўнік КП МО кіраўнік дарожнага інспектарату, які інфармаваў аб дарожных выпадках, якія здарыліся ў Беластоцкім павеце. Пасля заклікаў кіраўнікоў школ да арганізавання курсаў веласіпеднай язды, дзе вучні пачатковых школ пазнаёміліся б з дарожнымі знакамі.

На канферэнцыю прыбыў таксама кіраўнік фінансавай адзінкі ПРН, адказны за асветныя справы — грам. Кандрусік. Гаварыў ён аб правілах гаспадаравання фінансамі прыдзеленымі школе і як павінна весціся матэрыяльная гаспадарка.

**Мікола Краўчук**
**Патока**

### МІХАСЬ БАКАНАЧ



Ураджэнец Новага Ляўкова (Гайнаўскі павет) 18-гадовы Міхась Баканач вучыцца ў Засаднічай школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў Міхалове на 3-цім курсе. Прыватна займаецца спортам, хоць гэта ўсё яшчэ не найлепш успрыймаецца ў вясковым асяроддзі, бо лічыцца гэта непатрэбнай стратай часу. Міхась мае дасягненні. Сістэматычна праводзіць трэніроўку ад 15 года жыцця. У Міхалове мае ў школе добрыя ўмовы. Там заняткі па фізкультуры вядзе абсальвент беластоцкага СН — Мікалай Матыс.

М. Баканач у мінулым годзе заняў 1 месца ў штурханні 7-кілаграмавага ядра на спартакіядзе рэянова́й ЛьЗС у Свінароях к/Нараўкі і III месца на чэмпіянаце Беластоцкага павета.

У вышыню скача ён паўтара метра. Падымае 90 кг. Вага яго 80 кг, узрост 176 см.

Вясковы малады спартсмен чытае спартыўную прэсу і літаратуру. У вольны час іграе на гітары.

Міхась Баканач 1,5 кг дыскам кідае больш 36 метраў.

Тэкст і фота Ц.К.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Piąty jeździec Apokalipsy" (czeski), 14—15. „Czterej pancerni i pies" (polski), 16—19.

**Дубіны**

„Czterej pancerni i pies" (polski), 18—19.

**Нараўка**

„Czterej pancerni i pies" (polski), 15—19.

**Нарва**

„Kamo znany osobiście" (radz.), „Kamo niebezpieczna misja" (radz.), 15—19.

**Чыжы**

„Grek Zorba" (USA), „Jej siedem wieczorów" (czeski), 15—19.

**Дубічы Царкоўныя**

„Teresa Desqueraux" (franc.), „Porucznik jazdy" (radz.), 15—19.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Dzieci Don Kichota" (radz.), „Dzielnica kruków" (szwedzki), 15—19.

**Орля**

„Na tropach szpiega" (radz.), „Po kruchym lodzie" (radz.), 15—19.

**Райск**

„Fifi piórko" (franc.), „Na pokładzie stanął kapitan" (radz.), 15—19.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Poranki młodości" (radz.), „Na los szczęścia Baltazarze" (franc.), 14—17.

**Міхалова**

„Dwa żebra Adama" (USA), 14—15. „Małpia kuracja" (USA), 16—17. „Lecą żurawie" (radz.), 18—19.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Szkice węglem" (polski), 14—15. „Rok Franka W." (polski), 16—17. „Dywersanci" (jugosł.), 18—19.

**Шудзялава**

„Kochankowie z Marony" (polski), „Miłość jednej nocy" (rumuński), 15—19.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Noc bez końca" (bułg.), Chewzburska ballada" (radz.), 15—19.

**Новы Двор**

„Galia" (franc.), „Lebiediew contra Lebiediew" (radz.), 18—19.

**Ліпск**

„Gwiazdy w morzu" (radz.), „Męski piknik" (jugosł.), 18—19.

Вальтэр і Глюк адшчэпваюць замкі, якія нагадваюць сцяжныя зашчапкі каністра. Цыліндр разнімаецца на дзве часці. У ім — чалавек.

Карцаву зразумела прызначэнне цыліндра. Гэта касета, у якой сюды дастаўляюць людзей, якія не ўмеюць карыстацца рэспіратарам.

Чалавека вынялі з касеты. Над ім нахіляецца Абст. Ён робіць укол. Чалавек устрасянуўся, енчыць. Абст бярэ яго руку, слухае пульс.

— Вады! — загадвае ён. — Хутчэй!

Глюк і Вальтэр выходзяць. Калі яны вяртаюцца, незнаёмец ужо мёртвы.

— Хуценька ты адчаліў... — мармыча радыст, разглядаючы трупа. — Хто ж ты быў: малаец ці індус?

— А, адзін чорт! — Глюк злуе. — Цягнулі яго, мучыліся, а ён ногі выцягнуў.

З кішэні на грудзях ён дастае круглае белае пудэлачка. Адчыняе. Вывальваецца скручаная ў трубку паперка. Ён разгортвае яе і чытае:

— «Рагху Бхангі, бакалаўр медыцыны. 708. Рэдстрыт, Лондан».

— Лекар... — шэпча Вальтэр. — Сам лёс прыслаў яго сюды. Трэба ж: даплыў, каб выпусціць дух у нас на руках!

Ён звяртаецца да Абста:

— Шэф, вы рызыкнулі б даверыцца чарнамазаму?

— Не ведаю. — Абст хавае шпрыц. — Зрэшты, чаму б і не?

— Чужому, шэф?

— А якая розніца? Ён ніколі б не выйшаў адсюль.

✲

Ізноў Карцаў бачыць сонца. Ён ляжыць ля самай вады. У тыя гадзіны, калі, дачакаўшыся цемры, ён зноў пераплыў лагуну і выбраўся на волю, — у тыя гадзіны ён шмат перадумаў. Перадумаў кожны свой крок, кожнае слова, якое ён скажа гаспадарам грота.

У вадзе, зусім побач, дзве галавы ў шлёмах!

Плыўцы выбраліся на скалу. Вось яны прыселі ля распасцертага на каменнях цела.

— Хто ты, стары? — па-англійску пытае Абст.

Пытанне паўторана на іспанскай мове, затым па-французску. І толькі потым гучыць нямецкая мова.

— Хто ты, стары? — гаворыць Абст. — Ты марак? Твой карабель затоплены?

Стары!.. Карцаву здаецца, ён у сне.

Мозг працуе з неймавернай быстрынёй. Так, вядома ж, так: ён вычарпаны, гразны, аброс.

Абст кладзе пальцы яму на запясце, слухае пульс.

Ён бачыць страх у вачах ляжачага чалавека. Чаму чалавек намагаецца схаваць руку?..

Абст хапае яе, паварочвае да сябе.

— Немец! — усклікае ён, убачыўшы татуіроўку.

Гэта апошняе, што запамятаў Карцаў. Апрытомнеў ён ужо ў падзямеллі.

**(Працяг будзе)**



**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 7322



© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

